


Група гарцэраў з Орлі. Фота М. Шаховіча.

№ 40 (1208) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 5.XI.1980 г.

Н. Тулупава

## СЫРАЖУЙКІ

Дзед Пахом
І ўнук Алежка
Ў лес пайшлі
Па сыраежкі.
А за імі кот Мявука,
Певень Куд
І свінка Жуйка.
Дзедка тупае ля елак,
Разграбае мох кійком.
Ўнук ляціць наперад смела,
А дубец — ягоны конь.
Кот Мявука каля норкі
Адганяе пеўня: „Кыш!“
Шышку скінулі ваверкі,
Кот як скочыць!
Думаў — мыш...
Жуйка бегае па сцежках,
Пятачком ледзь павядзе —
Там красуюць сыраежкі,
Як цюльпаны на градзе.
Лес прайшлі
З унукам дзед.
Не знайшлі грыбоў нідзе.
Што за дзіва, што за цуд?
Падлятае да іх Куд:
— Захварэла наша свінка,
І жывот баліць, і спінка...
— Што ты ела, Жуйка?
— Ела „сыражуйкі“,
Каля сцежак,
Ля кустоў
Не адну,
А цэлых —
Сто!

## КАЗА

Палохала Каза:
— Рагамі выб'ю гром
І высеку маланку капытом!
Спужаліся куры:
— Кудах-кудах-кудах!
Спужаліся качкі:
— Кра-кра, кра-кра — бяда!
Спужаліся гусі:
— Га-га, га-га!.. Каза,
Чым цябе ўгнявілі,
Дзераза?
А Каза галавой трасе:
— Мэ... вы ўсе...
Вінаватыя ўсе.
Усю траву
Маю выскублі,
Мураву маю
Выдзеўблі,
Не прайсці —
Столькі вас развялося! —
Барадою трасе ад злосці:
— Беражыцеся! —
Куры ў крапіву,
Качкі ў каноплі,
Гусі ў лазу,
Плачуць, праклінаюць Казу.
Клічуць сястрыцу Сініцу:
— Ты, сястрыца-Сініца,
Калісь падпаліла мора,
Можа, цябе Каза пабаіцца?
Гора нам, бедным, гора...
— Некалі мне, Сініцы,
За вас заступіцца.
Куры ў каноплі,
Качкі ў крапіву,
Гусі ў лазу,
Плачуць,
Праклінаюць Казу.
КлічуцьВаўка.
А Воўк
Пабачыў Казу
Ды ўцякаць:

— Страшэнных коз
Не страчаў
Я такіх,
Ратуйце мяне,
Ратуйце, браткі!
Гусі ў крапіву,
Качкі ў каноплі,
Куры ў лазу,
Плачуць,
Праклінаюць Казу.
А міма ляцеў Авадзень.
Злосны.
Галодны.
Не еў цэлы дзень.
І джыгануў Авадзень
Казу ў бараду!
Каза ад болю аб дуб
Як грымнецца:
— Мэ-э!
Бліснула ў яе галаве бліскавіца:
— Не будзеш, Каза, хваліцца!



## ШАЛІК

Буду ў садзіку старацца
І сама на ўроку працы
Цёплы шалічак звяжу,
Дома бабцы пакажу:
— На, бабка Анюта,
Шыйку сваю хутай!
Шалічак звязала,
Бабцы паказала.
Бабка падзівілася:
— Ах ты, страказа!
Мо мяне навучыш
Шалікі вязаць?

## ДОЖДЖЫК МІКІТА



Зноў расхныкаўся Мікіта,
Слёз наплакаў ён карыта.
— Дайце шчэ адно карыта,
Плакаць некуды Мікіту.
— Нясіце карыта! —
А прынеслі сіта.
— Нясіце бітон! —
Прынеслі батон.
Зноў надзьмуўся,
Зноў сярдзіты,
Зноў расхныкаўся Мікіта.
Тут прыйшла дзяўчынка Рада,
Кажа:
— Сядзь і плач над градкай.
Памагай бабулі
Паліваць цыбулю.

## СТРАКАЗА

Лётаў, лётаў „верталёт“,
А за ім скакаў наш кот.
„Верталёт“ на куст,
Далей ад бяды,
І кот — туды...
Кот здзівіўся:
— Нікога няма на кусце,
А „верталёт“
У ката на хвасце!!!



# Салдат Іванька

**(Беларуская народная казка)**

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

Пасылае цар дачку па салдата — пара на вайну ехаць.

— Не, — кажа салдат жонцы, — на вайну я не паеду: я ўжо адслужыў сваё.

Заплакала жонка і сама паехала з бацькам на вайну, а салдат набіў у люльку цэлую васьмушку махоркі і так запыхкаў, што ўвесь царскі сад дымам завалакло. Выкурыў люльку і кажа сам сабе:

— Эх, каб былі тут жучок, мышка і рак! Яны б мне параілі, як таго караля зваяваць.

Тут як бачыш сталі перад ім жучок, мышка і рак:

— Што скажаш нам, добры салдат? Чаго клікаў?

— Ды вось хачу з вамі параіцца, як караля зваяваць.

— Добра, — кажуць тыя. — Мы табе паможам.

Мышка з ракам прынеслі з царскіх*скляпоў меч-кладзянец, а жучок паляцеў у чыстае поле і прывёў багатырскага каня з сярэбранаю грываю.

Конь стукнуў перад салдатам капытом і кажа:

— Лезь, Іванька, мне ў правае вуха, праз левае вылезь.

Улез Іванька каню ў правае вуха, праз левае вылез і стаў такім малайцом-асілкам, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

— А цяпер садзіся на мяне, — кажа конь.

Сеў Іванька на багатырскага каня і паехаў на вайну. Прыязджае, бачыць: каралеўскае войска б'е царскае войска.

Стукнуў Іванька шпорамі каня пад бакі і рынуўся ў гушчу каралеўскага войска. Як махне мячомкладзянцом, дык па правы бок войска як мякіна сыплецца, па левы — як салома сцелецца. Цэлы дзень, ад ранку да вечара, ваяваў Іванька. Збіў-змалаціў ён варожае войска, падляцеў да караля, адсек яму рукі па самыя плечы і паехаў да цара.

Цар, вядома, не пазнаў яго.

— Скажы, добры маладзец, — пытаецца цар, — хто ты будзеш — якога роду-звання?

Салдат нічога яму не адказаў.

— Чым жа цябе ўзнагародзіць за тваю храбрасць?

— Нічога мне не трэба, — кажа салдат, — толькі дай мне сваю царскую хустачку на памяць.

Цар даў яму сваю хустачку.

Прыехаў Іванька ў сад, улез каню ў левае вуха, праз правае вылез і стаў такім, як быў.

Вярнуліся цар з дачкою з вайны. Усюды ў трубы трубяць, скачуць, спяваюць: такая радасць усім!

Прыходзіць царская дачка да салдата Іванькі.

— Эх, — кажа, — дарэмна ты не паехаў з намі! Хоць бы паглядзеў, што там было: колькі войска, колькі гармат! Ды не зваявалі б мы караля, каб не адзін бравы рыцар. Як наляцеў ён, ды ўсё каралеўскае войска збіў-змалаціў і самому каралю адсек рукі па самыя плечы. І хто ён — невядома. Вось каб гэта мой муж быў такім! А то не пашанцавала мне, беднай, на добрага мужа... Не муж у мяне, а недарэка!

— Ты, жонка, не лай мяне, а нясі хутчэй салдацкіх харчоў і ма-

хоркі, — кажа Іванька.

Прынесла жонка харчоў і махоркі. Есць салдат свае харчы, курыць махорку.

Вылечыўся той бязрукі кароль ды зноў абвясціў, што ідзе з вайною на цара і яго дачку, і не адзін, а з двума другімі каралямі ў хаўрусе.

Збіраецца стары цар на вайну, пасылае дачку па мужа.

— Ах, — кажа яна, — муж мой нарачоны, зноў ідзе на наша царства вялікае войска аж трох каралёў. А бацька мой стары ўжо — ваяваць не можа. Ці не паехаў бы ты за яго?



— Куды мне ехаць, — кажа салдат. — Я ўжо сваё адваяваў.

— А калі яны нашу зямлю заваююць, што мы тады рабіць будзем?

— Не заваююць! Той храбры рыцар паможа вам.

— Дык мы ж не ведаем, хто ён і дзе яго шукаць...

— Нічога, ён сам вас знойдзе.

Заплакала жонка і паехала са старым бацькам на вайну. А салдат паеў усе харчы, выкурыў усю махорку і кажа сам сабе:

— Вось каб цяпер мае памочнікі былі!

Толькі ён так сказаў, як з'явіліся перад ім жучок, мышка і рак:

— Што скажаш нам, добры салдат?

— А вось хачу з вамі параіцца, як трох каралёў зваяваць.

— Добра, — кажуць салдатавы памочнікі. — Мы табе паможам.

Прыцягнула мышка з ракам з царскіх скляпоў новы, у тры разы большы меч-кладзянец, а жук паляцеў у чыстае поле, у зялёныя лугі і прывёў адтуль новага багатырскага каня з залатою грываю.

Конь тупнуў перад салдатам капытом і кажа:

— Лезь, Іванька, мне ў правае вуха, у левае вылезь.

Улез Іванька каню ў правае вуха, у левае вылез і стаў такім малайцом-асілкам, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

— А цяпер садзіся на мяне, — кажа конь, — паедзем каралеўскія войскі малаціць.

Сеў Іванька на багатырскага каня і паехаў на вайну.

Прыязджае, а там каралеўскія войскі цара з дачкою акружылі і крычаць ім, каб у палон здаваліся.

Як урэзаўся Іванька ў варожае войска, як пачаў біць яго... Направа махне — войска як мякіна сыплецца, налева махне — як салома сцелецца. Каго сам сячэ, а каго конь капытамі топча...

Тры дні і тры ночы ваяваў Іванька. Збіў-змалаціў усё варожае войска, потым падляцеў да бязрукага караля і адсек яму галаву.

— Цяпер табе, паганец, больш на нашу зямлю не хадзіць! — кажа Іванька.

А два другія каралі ледзь жывыя ўцяклі.

**Заканчэнне ў наступным нумары.**




## СТАРАЖЫТНЫЯ ВЫНАХОДНІЦТВЫ

*Працяг з папярэдняга нумара.*

**Фінікіяне.**

На поўдні адбываліся дзіўныя рэчы не толькі з зоркамі, але і сонцам. Блізка ад экватара ў поўдзень Сонца стаіць проста над галавой. Чалавек стаіць на сонцы, а ценю няма ад яго ніякага. Ці ж гэта не дзіўна? Яшчэ далей на поўдзень Сонца пачынала рухацца не злева направа, як мы прызвычаены, а наадварот — справа налева.

Для народаў, якія жылі на адным месцы, напрыклад, егіпцян, усё гэта было зусім незразумелым дзівам.

Фінікіяне навучыліся па зорках і Сонцу знаходзіць у адкрытым моры дарогу для сваіх караблёў. Нездарма доўгі час яны лічыліся найлепшымі знаўцамі мараплавання і астраноміі.

Фінікіяне зрабілі яшчэ адно вельмі важнае адкрыццё, якое перайшло ў спадчыне і да нас. Яны першыя пачалі пісаць літарамі.

Да гэтага часу ўсе народы пісалі спецыяльнымі значкамі — іерогліфамі. Кожны такі значок — паўлітара-паўкарцінка — азначае цэлае слова. Таму іерогліфаў было вельмі многа — сотні і нават тысячы: на кожнае слова патрэбны быў свой знак. Навучыцца пісаць іерогліфамі было вельмі цяжка. Паспрабуйце запамятаць алфавіт на некалькі тысяч „літар“!

Вы, мабыць, чулі аб цяжкасці кітайскай граматы. Кітайцы тысячагоддзямі карысталіся іерагліфічным пісьмом. Толькі нядаўна ў Кітаі пачаўся пераход на алфавітнае пісьмо.

Фінікіяне здагадаліся, што можна запісваць значкамі не словы, а гукі, з якіх складаюцца словы. Тады малой колькасцю гукаў можна запісваць кожнае слова.

Такія значкі мы і называем літарамі.

Па прыкладу фінікіян, літарамі пачалі пісаць і іншыя народы, напрыклад, грэкі і нашыя продкі — славяне.

Як бачым, літары, якімі напісаны гэтыя словы, нарадзіліся тры тысячы гадоў назад на ўзбярэжжы Міжземнага мора!

Лікі фінікіяне таксама пачалі пісаць літарамі. Гэта было значна выгадней, і, галоўнае, хутчэй, чым егіпецкі і вавілонскі спосаб запісу, які заключаўся ў паасобным пісанні соцень, дзесяткаў і адзінак. Напрыклад, лік 1873 егіпцяне пісалі так: адзін значок, які азначаў тысячу, восем значкоў, якія азначалі сотні, сем значкоў, азначаючых дзесяткі, і тры значкі, азначаючыя адзінкі. А сучасны спосаб нашага запісвання прыдумалі якраз фінікіяне.

Спосаб запісу лікаў літарамі перайшоў потым і да іншых народаў.

**Паводле І. Дэпмана**

# Пазнаёмімся

* ✲ *

Тамара Красько, вучаніца восьмага класа, в. Махнатае, 61, пошта 17-206 Старакорнін, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 107589, г. Москва — Б-589, ул. Байкальская 41-2-74, Булычёвой Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

Янка Болбат, вучань шостага класа, вёска Ляшукі 43, пошта 17-221 Ляўкова Старое, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Тамара Філіпік, вучаніца пятага класа, вёска Вежанка 2, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 87. Лена Ляйко, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 82, кв. 88. Іра Кузняцова, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 1, кв. 45. Света Лагацкая, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 19. Іра Цярэшчанка, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 92, кв. 36. Света Сталярэнка, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90, кв. 40. Жэня Абакумаў, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 98. Іра Шылко, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Брэсцкая, 93, кв. 74. Аляксандр Казлоў, 13 гадоў.

* ✲ *

СССР, 107589, г. Москва, ул. Алтайская, д. 22, кв. 23. Лобачёва Ира. Дзяўчынка скончыла сёмы клас.

* ✲ *

СССР, 344094, г. Ростов-на-Дону, ул. Шевцовой, д. 35. II пос. Орджоникидзе. Захарченко Лариса. Дзяўчынка скончыла пяты клас.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Савецкая, 73, кв. 1. Сяргей Лагуцік, 11 гадоў.

* ✲ *

Аз. ССР, г. Баку. пос. Хурдалан, ул. Разград, дом 13 а, кв. 50. Насирова Тамила. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 2 б, кв. 79. Пашуевой Елене. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, 373200, г. Сумгаит, 7-9-12 квартал, дом 7а, кв. 36. Кочерян Нинель. Дзяўчынка скончыла пяты клас.

* ✲ *

СССР, 334020, г. Ростов, ул. Конституционная, дом 63/64, кв. 122. Оле Карташовой. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, 373200, г. Сумгаит, ул. Наришанова, дом 9, кв. 22. Исаханян Нине. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

# ШКОЛА МАЛЯВАННЯ: РЫСЬ.




Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.